**№№113–114 (3652–3653)**

24 ліпеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РЭТУШЫ

*Валерый КАРБАЛЕВІЧ*



## Анатомія абсурду

Паведамленне пра тое, што журналіст, рэдактар сайта Антон Сурапін арыштаваны па падазрэнні ў спрыянні незаконнаму перасячэнню мяжы (маецца на ўвазе – шведскім самалётам), пры тым што Міністэрства абароны і Памежны камітэт адмаўляюць гэты факт, узарвала інтэрнэт-супольнасць. Кажуць пра абсурднасць сітуацыі – маўляў, левая рука не ведае, што робіць правая, узгадваюць Кафку і Оруэла.

Але праблема ў тым, што мы спрабуем ацэньваць дзеянні беларускага рэжыму з гледзішча нармальнай логікі, шукаць прычыны і наступствы падзей, кіруючыся здаровым сэнсам. І ўвесь час трапляем у сітуацыю кагнітыўнага дысанансу, аксюмарану.

Любая складаная сістэма, асабліва такая, як дзяржава, павінна працаваць паводле нейкіх адзіных узгодненых правілаў. Інакш, калі розныя яе часткі дзейнічаюць у процілеглым кірунку, то сістэма ідзе ўразнос, робіцца крыніцаю самаразбурэння. Што, напрыклад, адбылося з СССР у часы Гарбачоўскай перабудовы.

Такія фармальныя правілы ў беларускай дзяржавы ёсць. Гэта Канстытуцыя, сістэма заканадаўства, ведамасныя інструкцыі. Аднак справа ў тым, што ўся гэтая сістэма правілаў не дзейнічае. Дакладней, дзейнічае выбарачна. Бо ў персаналісцкіх аўтарытарных рэжымах, рэжымах асабістай улады функцыянуе механізм ручнога кіравання. Гэта значыць, што ўказанні і распараджэнні кіраўніка дзяржавы замяняюць законы, інструкцыі, Канстытуцыю. Усе чыноўнікі гэта добра ведаюць і таму кіруюцца ў паўсядзённай дзейнасці менавіта імі.

І вось тут узнікаюць праблемы. Справа ў тым, што распараджэнні Лукашэнкі супярэчлівыя. Часта ён у адным выступе выказвае супрацьлеглыя, узаемавыключальныя тэзісы. У сваёй кнізе я прыводжу шмат такіх прыкладаў. І тады ўзнікаюць сумненні, ці правільна чыноўнікі разумеюць, што ім трэба рабіць.

Апошні прыклад. Лукашэнка дае загад давесці сярэдні заробак у краіне да канца года да 500 долараў. І адначасова патрабуе рабіць гэта не з дапамогай друкавання пустых грошай, а за кошт росту прадукцыйнасці працы. Не трэба быць эканамістам, каб разумець, што за некалькі месяцаў павысіць прадукцыйнасць амаль на 40% немагчыма. І як павінен дзейнічаць урад у такім выпадку?

Іншая праблема. Што рабіць чыноўнікам, калі няма ніякіх указанняў з самага верху адміністрацыйнай піраміды, а працаваць неяк трэба?

Тут існуе некалькі варыянтаў. Самы просты – імітацыя дзейнасці. Гэта найлепш бачна ў эканамічнай сферы. Урад прымае ўвесь час нейкія праграмы (імпартазамяшчэння, інавацыйнай дзейнасці), якія ніколі не выконваюцца. Дырэктары прадпрыемстваў, кіраўнікі рэгіёнаў распрацоўваюць планы прыцягнення замежных інвестыцый, якія ніхто не збіраецца рэалізоўваць.

Найбольш часта чыноўнікі пачынаюць кіравацца асабістымі альбо ведамаснымі інтарэсамі. І тады перыядычна здараюцца сітуацыі дзяржаўнага абсурду. Вось, напрыклад, была дадзена каманда не выпускаць за мяжу шэраг апазіцыйных палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, а механізма рэалізацыі няма. І кожнае ведамства выконвае сваю частку працы, перакладаючы адказнасць на іншых. КДБ стварае «чорныя спісы», памежны камітэт не выпускае, дэпартамент па міграцыі МУС штучна прыдумляе прычыну. У выніку атрымліваецца абсурд, калі мужчыны ва ўзросце 40 гадоў і нават жанчына абвінавачваюцца ва ўхіленні ад вайсковай службы.

Так і ў гэтай сітуацыі з шведскім «мядзведжым дэсантам». Міністэрства абароны і Памежны камітэт кіруюцца сваімі ведамаснымі інтарэсамі і заяўляюць: перасячэння мяжы не было. Бо ў адваротным выпадку ім жа трэба адказваць за тое, што недагледзелі. А КДБ важна зрабіць справаздачу аб раскрыцці злачынства, пакаранні вінаватых у скандале.

Іншая справа, што такая мадэль дзяржаўнага кіравання вядзе да вельмі негатыўных наступстваў. Калі афіцыйныя дзяржаўныя інстытуты (парламент, мясцовыя саветы, прафсаюзы, суды і інш.) імітуюць дзейнасць, замест іх рэй вядуць нефармальныя структуры і працэдуры (арышт грамадзян невядомымі людзьмі ў цывільным, кіроўныя ўказанні, не аформленыя ў выглядзе прававога акта), то адбываецца параліч дзяржавы. Страчваецца вера насельніцтва ў дзяржаўныя органы, пра што сведчаць сацыялагічныя апытанні. Гэта значыць, пад пытанне ставіцца легітымнасць дзейнай улады.

Калі закон выконваецца выбарачна, то гэта значыць, што ў дзяржаве перастае дзейнічаць права. Бо калі сёння міліцыянт дае лжывыя паказанні, што апазіцыйны актывіст лаяўся, і суддзя на гэтай падставе выносіць прысуд, то заўтра наўрад ці яны будуць дзейнічаць паводле закона ў дачыненні да іншага грамадзяніна – не апазіцыянера. У выніку знікае інстытут правасуддзя, ад самаўпраўства не застрахаваны ніхто, у тым ліку самыя высокія чыноўнікі.

І калі сітуацыя трошкі ўскладняецца, становіцца відавочным, што дзяржава не ў стане выконваць свае функцыі. Гэта яскрава выявілася падчас мінулагодняга фінансавага крызісу. Альбо ў час гэтага трагікамічнага шведскага «мядзведжага дэсанту».

**(Радыё Свабода.)**

**Пашырайце шэрагі падпісчыкаў!**

*Каб атрымліваць "Народную Волю" ў жніўні, аформіць падпіску трэба да 27 ліпеня. Зрабіць гэта можна ў любым паштовым аддзяленні, а мінчанам — яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".*

АЛІМПІЯДА

## Нашы ўжо ў Лондане



У Лондане ўзнялі беларускі сцяг. На спецыяльна адведзенай для гэтага пляцоўцы арганізатары з дапамогай акцёраў маладзёжнага тэатра разыгралі касцюміраванае шоу з песнямі і танцамі. Асноўным яго лейтматывам было тое, што лонданская Алімпіяда дае шанц стаць чэмпіёнам кожнаму.

Нагадаем, што ўрачыстае адкрыццё Алімпіяды адбудзецца ў бліжэйшую пятніцу – 27 ліпеня.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Кацярына КАРСТЭН:*

## "Калі садзішся ў лодку, хваляванне застаецца на беразе"

*За некалькі дзён да пачатку Алімпіяды ў Лондане карэспандэнт "Народнай Волі" пагутарыў з капітанам беларускай алімпійскай зборнай Кацярынай КАРСТЭН.*

Для Кацярыны, якая займаецца акадэмічным веславаннем, гэта будуць ужо шостыя (!) Алімпійскія гульні ў яе кар'еры. Доўгажыхарка!

– Шчыра кажучы, спачатку пры падрыхтоўцы да Гульняў былі праблемы з лодкай, але іх вырашылі і зараз пра гэта, напэўна, ужо ўспамінаць і не варта, – кажа тытулаваная спартсменка.

– Гэта ўжо ваша шостая Алімпіяда. Складана так доўга выступаць ды яшчэ паказваць вынікі?

– Мне больш псіхалагічна складаней, чым фізічна. Вялікая адказнасць, многія чакаюць ад мяне не проста медаля, а менавіта залатога. Цісне ўсё гэта. Неяк нават на вуліцы аматары спорту пазналі, падышлі і адразу ж: "Ну што, зможаце заваяваць "золата"?

– А самі як адчуваеце?

– Падрыхтоўка прайшла па плане, усе нагрузкі вытрымала... Іншая справа, што пакажуць саперніцы, бо з некаторымі ў гэтым сезоне я нават і не сустракалася.

– А можа быць такое, што спартсмен чатыры гады рыхтуецца да Гульняў, а падчас спаборніцтваў "перагарыць" і – да пабачэння?

– Безумоўна, можа. Але я не павінна. Усё ж такі гэта мая шостая Алімпіяда, як кажуць, ужо не дзяўчынка. Калі садзішся ў лодку, хваляванне сыходзіць, яно застаецца на беразе. Застаецца толькі канцэнтрацыя на гонку.

– Зараз, можа, рыхтаваліся па нейкай спецыяльнай методыцы?

– Не, усё звычайна.

– Вам спартыўныя чыноўнікі нейкі план на Гульні паставілі?

– У вочы не казалі, што нешта канкрэтна я павінна, але ж вядома, што чакаюць толькі "золата". Безумоўна, усе хочуць перамагчы. А як там атрымаецца?..

– Скажыце шчыра: веславанне за такі доўгі час не абрыдла?

– Ды не. Больш надакучылі раз'езды, зборы... Я нават не выключаю, што яшчэ і на сваёй сёмай Алімпіядзе ў 2016 годзе выступлю.

– Ніколі не думалі, чым будзеце займацца пасля таго, як пакінеце спорт?

– Нешта ў гэтым годзе ў журналістаў стала коронным пытанне пра маё заканчэнне кар'еры. Што вам адказаць? Не ведаю пакуль. Усё жыццё ў мяне прайшло ў спорце, у гэтым годзе наогул быў юбілей – 25 гадоў, як займаюся веславаннем. А 2 чэрвеня адзначыла і яшчэ адзін юбілей – саракагоддзе. Без спорту нават і не ведаю, чым буду займаць сябе.

– Грэх не зрабіць у юбілейны год сабе падарунак?

– Я таксама так думаю.

– Вы па-ранейшаму жывяце ў Германіі?

– Так, у невялічкім гарадку пад Кёльнам.

– Ведаю, што і ваша дачка Аляксандра таксама пачала займацца веславаннем?

– Спрабуе сябе, трэніруецца. Яна ж маленькая пастаянна са мной была на трэніроўках, бачыла, што гэта за хлеб. Жыла веславаннем разам з мамай, вырасла на гэтым. Неяк пасля майго выступлення на чэмпіянаце свету заявіла: "Я таксама буду займацца гэтым відам спорту". Сашы зараз 14 гадоў, хацела крыху пазней аддаць яе ў спорт, але сказаў сваё слова муж Вільфрэд. У спорт – дык у спорт. Гэта ж асэнсаваны выбар чалавека, не дзіця ўжо.

– Ёсць ужо ў яе свае поспехі?

– Скажам так – лакальнага маштабу.

– Вы ёй нешта падказваеце?

– Падказваю, але добра было б, каб яна яшчэ і слухала. Неяк прыехала да дачкі на спаборніцтвы, а трэнер мне: "Бацькам нельга даваць парады". Кажу: "Я – не маці, а таксама трэнер".

– А да бабулі ў беларускую вёсачку прыязджае?

– Рэдка атрымліваецца, бо ў Германіі канікулы малыя. А калі ў Аляксандры канікулы, у мяне разгар сезона. Таму разам прыязджаем у Беларусь нават і не кожны год. Зараз вось перад ад'ездам я з'ездзіла да мамы, павіншавала яе з 75-годдзем. Адным словам, ёсць дзеля каго ўдала выступіць у Лондане...

– Поспехаў!

**Алесь СІВЫ.**

**(Працяг тэмы – на 8-й стар.)**

ПОЛЕМИКА

*Отношение к предстоящим выборам в парламент настолько неоднозначное, что упреки и обвинения сторонников разных стратегий уже выплескиваются в СМИ. Участие в выборах или бойкот? Каждая из сторон считает правильной именно свою точку зрения.*



*Николай ХАЛЕЗИН*

## Заговор обреченных

Кто и кого пытается обмануть в нынешней ситуации?

Мы что, не знаем, почему Александр Милинкевич идет на выборы? Или мы с 2006 года не ведаем, что его шантажировали власти то сыновьями, то недвижимостью, то личной безопасностью?

Мы не слышали, как Анатолий Лебедько сетовал на то, что зарубежные фонды дают деньги партийным структурам только на то, чтобы члены партий участвовали в выборах?

Мы не знаем, что лидер коммунистов Сергей Калякин всегда боялся конфликтов и постоянно поддерживал авантюры власти?

Мы что, забыли на каких условиях выпускали из тюрем «декабристов первого призыва», и почему именно они оказались в первых рядах желающих «пойти к людям» в предвыборную кампанию? Или не видим, как один из главных желающих «говорить правду» предлагает участникам выборов по десять тысяч долларов до избирательной кампании и десять после?

Все эти участники выборов «потому что мы хотим пойти к людям» – игроки власти в тылу оппозиции, и не стоит тешить себя иллюзиями об их благих пожеланиях побороться за избирателя. Ситуация не проста, а очень проста: если бы этим политикам было о чем говорить с народом, они бы давно вошли в каждый дом, в каждую квартиру, не дожидаясь формального разрешения властей. И если бы людям хотелось этих политиков видеть и слышать, они сами пришли бы к ним домой, разбудили спящего Милинкевича, и попросили: «Ну, Владимирыч, скажи-ка нам правду». Только вот сказать Владимирычу нечего.

Не стоит оппозиционным политикам, желающим получить от властей дивиденды за участие в выборах, рассчитывать, что все вокруг идиоты, и не понимают их мотивов. За 18 лет у нас было время разобраться, кто чего стоит и кто сколько стоит.

*Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ*



## Чаму я пайшоў на выбары?

Бо лічу, што байкотная дуліна ў кішэні, скручаная ў бок улад, у выніку будзе павернута таксама ў бок простых беларусаў. І потым не трэба наракаць, што народ паказвае кукішы ў адказ.

Меркаванні «супраць» даводзіліся самыя розныя. Адныя казалі: «Твой узровень – барацьба за прэзідэнцтва», іншыя – пра толькі байкот, бо, маўляў, «балатавацца – значыць, быць памагатым рэжыму!».

У першым выпадку цешылі ганарыстасць, у другім – тролілі крыклівым, прымітыўным антыпіярам а-ля БТ, што, на жаль, прэтэндуе цяпер на мэйнстрым у вольнай грамадскай думцы. Я гатовы да ўсялякіх ярлыкоў ад байкотчыкаў у еўрапейскіх сталіцах па перыметры Беларусі ды ў інтэрнэце, ад палітыкаў-адзіночак, за якімі няма структур і якія сваю маргінальнасць маскіруюць пад высокамаральную палітычную пазіцыю.

А з іншага боку, ёсць мужны палітык Мікола Статкевіч, які праз краты заклікаў браць удзел у выбарах: «Пры адсутнасці прагрэсу ў дэмакратызацыі выбарчага заканадаўства задачамі ўдзелу дэмакратычных сіл у парламенцкай кампаніі павінны быць: карыстанне легальнымі магчымасцямі для агульнанацыянальнай агітацыйнай кампаніі, правядзенне скаардынаваных акцый пратэсту па ўсёй краіне ў фармаце сустрэч з выбаршчыкамі, збор доказаў фальсіфікацыі выбараў. Няўдзел апазіцыі ў выбарах не з'яўляецца нагодай для іх міжнароднага непрызнання, гэтак жа, як удзел не з'яўляецца нагодай для іх прызнання».

Калі яго, палітвязня, ужо паспелі абліць брудам і западозрыць у працы на ўладу, то што ўжо наракаць мне?! Нячыстыя прапагандысты, на вялікі жаль, ёсць і на нашым баку барыкад.

Мне закідаюць, што вось на выбары ў прэзідэнты ў 2010 годзе не пайшоў, а цяпер балатуюся, нібыта нешта змянілася. Адказваю. Тады, у 2010 годзе, улады напісалі сцэнарый, каб кандыдатаў было не злічыць пальцамі аднае рукі. Каб кольkасць пераўзыходзіла якасць.

У адрозненне ад прэзідэнцкіх, парламенцкія выбары ўладу змяніць наўрад ці змогуць. Але вельмі важны ўдзел у выбарчай кампаніі дзеля стасункаў з народам – каб давесці, што ёсць альтэрнатыва, што незалежнасць і еўрапейская перспектыва пад пагрозай. У рэшце рэшт, каб не быць далёкімі і незразумелымі для народа.

Сёння сітуацыя такая, што ўлады самі па сабе, апазіцыя сама па сабе, а народ сам па сабе. А між тым час для краіны лёсавызначальны. Задачай руху «За Свабоду» на гэтых выбарах з'яўляецца ўмацаванне ў беларусах адчування неабходнасці перамен і асабістай адказнасці за лёс Радзімы. Мы хочам распавесці людзям аб паспяховых рэформах у розных краінах, у тым ліку суседніх: у Эстоніі, Славакіі, Польшчы, Чэхіі ды іншых. А таксама прапануем план рэформ для Беларусі з улікам іхніх памылак. Будзем прэзентаваць «Народную праграму» – своеасаблівую дарожную мапу рэформ, над якой працавалі больш за год.

Беларусы могуць зладзіць перамены, таму што мы маем залатыя рукі і светлыя галовы.

Для перамен патрэбна вера, аптымізм.

Таму нам важна прадэманстраваць, што сярод незалежных кандыдатаў у дэпутаты ёсць акурат шмат такіх людзей – працавітых і разумных, годных і сумленных, якія любяць сваю Радзіму і ведаюць, як ажыццявіць у ёй перамены. Нам патрэбна не стабільнасць выжывання, а стабільнае развіццё, і мы маем дзеля гэтага самае галоўнае – таленавіты народ. І такі народ мае права мець дэпутатамі тых, каго ён абірае, а не каго яму падсоўваюць.

Я балатуюся па 109-й акрузе Мінска, што ва Уруччы.

І перакананы, што, маючы ў сваёй ініцыятыўнай групе, у сваёй камандзе сапраўдных прафесіяналаў у самых розных сферах і правёўшы інтэнсіўную інфармацыйна-агітацыйную кампанію, перамагу, прынамсі, у думках людзей. Бо ведаю настроі жыхароў Уручча асабіста, паводле лакальных сацыялагічных апытанняў, і ведаю пазіцыі мінчукоў наогул.

Пры справядлівым і сумленным падліку галасоў з незалежных кандыдатаў, ад апазіцыі перамагу не адзін я. Нават парламенцкая фракцыя з тузін дэпутатаў магла б прасоўваць рэформы ў краіне. Паглядзіце: апошні склад парламента сам ініцыяваў толькі некалькі законапраектаў. А парламент у нармальнай краіне – гэта не кантора штампавальшчыкаў дакументаў, спушчаных зверху, а форум народных дэпутатаў, што займаюцца законатворчасцю і бароняць інтарэсы выбаршчыкаў.

Што б я рабіў у першую чаргу, маючы дэпутацкі мандат? Абяцаю распавесці ў наступным артыкуле.

**Аляксандр Мілінкевіч.** **Старшыня руху "За Свабоду". Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Гродне. Кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт. Намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкама (1990–1996). Кандыдат у прэзідэнты ад аб'яднаных дэмакратычных сіл у 2006 годзе. Лаўрэат прэміі Еўрапейскага парламента імя Андрэя Сахарава "За свабоду думкі".**

## Беларусь стала касмічнай дзяржавай

Беларускі спадарожнік БКА выведзены на арбіту. У мінулую нядзелю Беларусь уступіла ў сусветны "касмічны клуб".

Расійская ракета-носьбіт "Саюз-ФГ", якая стартавала ў нядзелю з касмадрома Байканур, паспяхова вывела на арбіту беларускі спадарожнік дыстанцыйнага зандзіравання Зямлі. Сярод задач, якія будзе вырашаць БКА, – кантроль надзвычайных сітуацый, абнаўленне тапаграфічных карт, экалагічны маніторынг навакольнага асяроддзя.

Нагадаем, што першая спроба Беларусі стаць "касмічнай дзяржавай" была няўдалай. Ракета-носьбіт "Днепр", якая стартавала ў канцы ліпеня 2006 года з Байканура з першым беларускім касмічным апаратам "БелКА-1", пацярпела аварыю.



**Да ўвагі чытачоў!**

Камп'ютарная вёрстка газеты мае вялікія перавагі, але ў той жа час не выключае ўсялякіх нечаканасцей.

Вось і сённяшні і некалькі наступных нумароў з-за тэхнічных прычын мы вымушаны звярстаць у фармаце новай праграмы. Прабачце, калі ласка, калі такі дызайн газеты прыйдзецца Вам не даспадобы. Хутка ўсё адновіцца, стане на сваё месца.

**Рэдакцыя.**

**У Вас ёсць тры дні...**

***...каб падпісацца на "Народную Волю" на жнівень.***

**Да 27 ліпеня Вас чакаюць у любым паштовым аддзяленні.**
**"Народная Воля" служыць не ўладам.**
**"Народная Воля" служыць не партыям.**
**"Народная Воля" служыць не алігархам.**
**"Народная Воля" служыць Вам, шаноўныя чытачы!**
**Будзем разам!**

ПРАЕКТЫ

# Задача: знайсці тое, чаго няма?

Аляксандр Лукашэнка пашырыў пералік радовішчаў, якія перадаюцца ў канцэсію замежным інвестарам для пошуку рассеянага вуглевадароднага ці, прасцей кажучы, сланцавага газу.

Раней інвестарам прапаноўвалася перадаць у канцэсію толькі ўчасткі нетраў у трох раёнах Брэсцкай вобласці – Брэсцкі, Жабінкаўскі і Камянецкі. Цяпер гэты пералік значна пашыраны за кошт Пружанскага, Кобрынскага, Маларыцкага раёнаў Брэсцкай вобласці; Акцябрскага, Петрыкаўскага, Калінкавіцкага, Ельскага, Хойніцкага, Нараўлянскага раёнаў Гомельскай вобласці; Глускага раёна Магілёўскай вобласці і Любанскага раёна Мінскай вобласці.

Цікава, што яшчэ да падпісання гэтага ўказа дырэктар дэпартамента па геалогіі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Варакса паведаміў, што Беларусь вызначылася з інвестарам для пошуку сланцавага газу. «Паспяхова праведзены перамовы, і адна з заходніх кампаній у бліжэйшыя месяцы прыступіць да рэалізацыі праекта», – распавёў Уладзімір Варакса. Але кампанію не назваў. Такім чынам, можна меркаваць, што пашыранне зоны пошуку – гэта была ўмова інвестара.

Раней у Беларусі радовішчаў сланцавага газу не знаходзілі, і ўвогуле яго пошук лічыўся эканамічна немэтазгодным. Але ў 2010 годзе Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў гэтыя радовішчы знайсці. Якраз тады ў Еўропе пачалася эйфарыя з-за сланцавага газу, загучалі прагнозы, што Еўропа нарэшце пазбавіцца залежнасці ад расійскай газавай трубы, і беларускі кіраўнік паддаўся гэтай тэндэнцыі. «Сёння ўжо ўвесь свет і нядаўна еўрапейцы заявілі аб тым, што дзякуючы сланцаваму прыроднаму газу яны на трэць у бліжэйшы час скароцяць пастаўкі газу з Расіі. Чаму мы спім у шапку? Калі мы гэтага не можам зрабіць, вы мне прама скажыце. Я буду шукаць, хто гэта можа. Калі гэта магчыма, дык давайце будзем працаваць над гэтым. Давайце на гэтым напрамку сканцэнтруем грашовыя сродкі. Гэта ж невялікія грошы», – папракаў Аляксандр Лукашэнка ўрад і Нацыянальную акадэмію навук падчас выступлення са штогадовым пасланнем.

Два гады на раскачку – і работы пачынаюцца.

Што такое сланцавы газ? Гэта прыродны свабодны газ, які знаходзіцца ў мікратрэшчынах гаручых сланцаў і некаторых іншых парод. У яго кампанентным складзе, акрамя метану, маецца вуглякіслы газ і іншыя прымесі.

Дзе і як здабываюць гаручыя сланцы? Радовішчы гаручых сланцаў распрацоўваюцца ў шэрагу краін, у тым ліку Расіі, Кітаі, Эстоніі, ЗША. У Кітаі распрацоўка вядзецца адкрытым спосабам: гаручыя сланцы здабываюцца разам з вуглём і з ім жа перапрацоўваюцца. У Эстоніі частка гаручых сланцаў здабываецца з неглыбокіх шахт, а частка – адкрытым спосабам. Па дадзеных Эстонскага інстытута сланца, у гэтай краіне ў год здабываецца 17,1 мільёна тон, з іх 14,4 мільёна тон ідуць на выкарыстанне ў энергетыцы, на электрастанцыях, 2,7 мільёна – на атрыманне смалы і іншых хімічных злучэнняў.

Вялікія надзеі на сланцавы газ ускладаюць у Польшчы. Спачатку эксперты нават гаварылі, што, адкрыўшы самыя багатыя ў Еўропе радовішчы, краіна "атрымала гістарычны шанс" адмовіцца ад расійскага газу.



Але апошнія навіны не такія радасныя. Амерыканскі нафтавай гігант Exxon Mobil адмовіўся ад планаў здабычы сланцавага газу ў Польшчы, не атрымаўшы здавальняючых вынікаў пасля бурэння разведачных свідравін. Пра гэта днямі паведаміла польская Gazeta Wyborcza са спасылкай на прадстаўніка польскага падраздзялення кампаніі. Такое рашэнне кампанія прыняла, не выявіўшы камерцыйных запасаў газу ў дзвюх свідравінах.

І гэта ўжо не першы раз, калі свідравіна сланцавага газу ў Еўропе аказваецца безвыніковай. Да гэтага Exxon у 2009 годзе кінуў праект у Венгрыі. Патраціўшы 75 мільёнаў долараў на яго распрацоўку, кампанія знайшла ў свідравіне больш вады, чым газу. У сувязі з гэтым вельмі цікава, якая кампанія гатова рызыкнуць грашыма ў Беларусі. Але адказ на гэтае пытанне пакуль таямніца. Вядома толькі, што ў выпадку, калі сланцавы газ у Беларусі ўсё ж такі будзе знойдзены, то інвестар атрымае права на яго распрацоўку без правядзення тэндэраў ці конкурсаў.

**Дасье.** Гаручыя сланцы ўпершыню былі выяўлены ў Беларусі ў 1963 годзе. Плошча Прыпяцкага сланцаноснага басейна ахоплівае заходнюю частку Гомельскай, паўднёвую частку Мінскай і ўсходнюю частку Брэсцкай абласцей і складае каля 10 тысяч квадратных кіламетраў. Глыбіня залягання – ад 50 да 600 метраў. Прагнозныя рэсурсы сланцаў Прыпяцкага сланцаноснага басейна (абмежаванага глыбінёй залягання сланцаносных адкладаў у 600 метраў) ацэньваюцца ў 8,8 мільярда тон. Раней афіцыйна лічылася, што прамысловае значэнне маюць гаручыя сланцы толькі заходняй частцы басейна. Былі выяўлены і папярэдне разведаны два радовішчы з найбольш высокімі якаснымі паказчыкамі гаручых сланцаў – Любанскае і Тураўскае. Але сланцавы газ геолагі не знаходзілі. І, дарэчы, не шукалі. Даследаванні па вывучэнні сланцавага газу і ацэнкі яго ўтрымання да гэтага часу ў Беларусі не праводзіліся. Пасля завяршэння папярэдняй разведкі Гарынскага ўчастка Тураўскага радовішча здабыча гаручых сланцаў у Беларусі была прызнана эканамічна немэтазгоднай.

Дарэчы, у шэрагу еўрапейскіх краін адмаўляюцца ад праектаў па пошуку і здабычы сланцавага газу не па эканамічных, а па экалагічных прычынах. Напрыклад, не так даўно ў Францыі па гэтай прычыне наклалі забарону на працы ў галіне сланцавага газу.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

МЕРКАВАННІ

За тыя два гады, што прайшлі пасля таго, як была пастаўлена задача знайсці сланцавы газ, на гэтуютэму выказаліся многія спецыялісты. Вось толькі некаторыя меркаванні.

### А калі падлічыць...

**Ніна ЯКАЎЛЕВА, загадчыца аддзела геалогіі нярудных карысных выкапняў Беларускага навукова-даследчага геолага-разведачнага інстытута:**

– Для здабычы сланцавага газу, як і для атрымання вугальнага метану, выкарыстоўваюць новую тэхналогію бурэння, якую ў свеце асвоілі нямногія кампаніі, паколькі яна досыць складаная і дарагая. Сабекошт здабычы сланцавага газу ў Амерыцы вельмі высокі. Па гэтай прычыне здабыча альтэрнатыўнага газу ў ЗША льгатуецца. Так, у 2007 годзе ў ЗША мелася 4185 сланцавых свідравін. Хоць сланцавы газ змяшчаецца ў малых колькасцях, але за кошт адкрыцця вялікіх плошчаў можна атрымліваць значныя аб'ёмы такога газу. Для гэтых мэтаў неабходна шмат наземных буравых установак. У Амерыцы існуе да 940 буравых установак. Важна ўлічваць, што ў ЗША выкарыстоўваюць сланцавы газ толькі для мясцовых спажыўцоў, паколькі ён некандыцыйны, «брудны» (змяшчае, акрамя метану, і іншыя кампаненты) і без ачысткі не падыходзіць ні для ЦЭЦ, ні для хімічных або металургічных прадпрыемстваў. Да таго ж у Амерыцы асноўныя радовішчы знаходзяцца на тэрыторыі маланаселенага штата Тэхас.

А ў нас залежы сланцаў размешчаны на густанаселеных тэрыторыях Мінскай, Гомельскай і Брэсцкай абласцей. Давайце ўявім, што сланцавы газ у Беларусі ёсць і яго ўтрыманне ў пародах не менш устаноўленага для гаручых сланцаў ЗША. Нават у гэтым выпадку, улічваючы геалагічныя запасы і ўмовы залягання гаручых сланцаў у Беларусі, прыйдзецца казаць пра фантастычна высокі сабекошт газу. А трэба ж яшчэ знайсці спажыўца, перабудаваць трубаправоды, інфраструктуру, наладзіць ачыстку. Нават пры здабычы гаручых сланцаў традыцыйным спосабам гэта вельмі дарагі праект. А што ж тады казаць пра здабычу так званага свабоднага сланцавага газу?!

### А ці ёсць у нас найноўшыя тэхналогіі?

**Алена РАКАВА, кандыдат эканамічных навук:**

– Хоць сланцавы газ можна знайсці паўсюль, не ўсюды яго здабыча такая выгадная, як у ЗША. Неабходна бурэнне тысяч свідравін на вялікіх плошчах. У Еўропе з яе высокай шчыльнасцю насельніцтва і адносна вялікімі глыбінямі залягання сланцавага газу зрабіць гэта праблематычна. Існуюць і экалагічныя рызыкі, звязаныя з тэхналогіяй, якая выкарыстоўвае вялікую колькасць вады і хімікатаў.

Але асноўнае абмежаванне ў здабычы гэтага газу для такіх краін, як Польшча, Літва, Латвія, Украіна і Беларусь ляжыць у вобласці атрымання неабходных тэхналогій і абсталявання. Здабыча сланцавага газу – гэта найноўшыя тэхналогіі, і не проста вялікія, а вельмі вялікія грошы. Іх у краіне няма і не будзе; не прыйдуць да нас і інвестары з тэхналогіямі XXI стагоддзя. Таму праблему энергетычнай бяспекі трэба вырашаць, умацоўваючы перш за ўсё фінансавую незалежнасць і плацежаздольнасць краіны.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Анна СЕМЕНОВА:*

# «Абсолютно все были в крови – если не в своей, то в чьей-то…»

*Выпускница БНТУ Анна Семенова – одна их тех, кто пострадал во время недавнего ДТП в Херсонской области в Украине. Вместе с подругами она возвращалась в Беларусь из Евпатории. "Народная Воля" разыскала ее в хирургическом отделении Херсонской областной больницы. У Анны глубокие раны на спине, ушибы коленей. Но можно сказать, что ей повезло больше остальных – она, по крайней мере, может ходить.*

"Я сидела почти в самом конце автобуса, и как раз с той стороны, на которую он повернулся в результате удара, – рассказала Анна "Народной Воле". – Когда это все случилось, я думала, что не смогу выбраться из автобуса. И, честно говоря, не очень помню, как выкарабкалась. Автобус начал дымиться и было ощущение того, что он вот-вот взорвется...

Было очень жутко. Некоторые не могли ходить, им, как могли, оказывали помощь. Абсолютно все были в крови – если не в своей, то в чьей-то...

Тех, у кого кроме испуга после ДТП остались только ссадины и удары, не угрожающие жизни, после осмотра медиков на новом автобусе отправили в Минск. А другие до сих пор в больницах. Среди них – и подруги Анны Семеновой.

"Одна подруга получила сильнейший удар позвоночника и она чуть ходит, – говорит Анна. – Она находится в Каланчакской центральной районной больнице. У еще одной подруги травма головы... Никто, конечно, и предположить не мог, что так отдых закончится..."

Анна перед поездкой на отдых оформила медицинскую страховку, но вчера ей вручили список лекарств, которые необходимо приобрести.

"Дали список лекарств, которые надо купить, – сказала Анна. – Нам говорят, что все расходы компенсируют, когда вернемся в Минск. А перевязки, консультации врачей – все бесплатно".

По словам Анны, все вещи, которые у нее были с собой, ей вернули.

"Какие-то вещи были у меня с собой в автобусе, а все, что было сдано в багаж – чемодан и сумка, мне уже вернули", – рассказывает она.

Анна точно не знает, надолго ли угодила в Херсонскую больницу.

"Врачи говорят, что можно меня перевезти в Беларусь, но сказали, что автобус будет только 25 июля, – говорит Анна. – Если бы можно было раньше, то меня бы уже привезли... Этот отдых, конечно, запомнится надолго..."

Кстати, в нейрохирургическом отделении Херсонской областной больницы проходит курс лечения еще один белорус. По словам начмеда больницы Игоря Полюха, состояние граждан Республики Беларусь стабильное, угрозы их жизни нет.

**Марина КОКТЫШ.**

СИТУАЦИЯ

# Страсти вокруг «Луча»

*Не так давно в СМИ появилась информация, что «концерн "Беллегпром" продолжает работу по созданию обувного холдинга на базе СООО "Белвест" и намерен включить в него минское обувное ОАО "Луч". И для этого, мол, "Луч" должен был передать концерну 25% акций. О перспективах обувного предприятия «Народной Воле» рассказал акционер МО ОАО «Луч» Степан БУЮКЛЫ:*

– О каких 25% идет речь, если на балансе общества находится в настоящее время 5,44% акций собственного выпуска? При этом 1,44 % акций из них в течение трех лет трогать практически нельзя – в силу возможных исков со стороны акционеров, продавших их обществу. Решение внеочередного общего собрания акционеров МО ОАО «Луч» от 25 октября 2011 года о приобретении обществом акций собственного выпуска, в соответствии с которым и были приобретены эти 1,44% акций, решением Хозяйственного суда г.Минска от 27.03.2012 года признано недействительным. Суд не принял решения о последствиях недействительности решения общего собрания, однако очевидно, что каждый акционер, который продал в ноябре 2011 года свои акции по старой номинальной стоимости акционерному обществу, при возможном росте их рыночной стоимости, вправе потребовать у последнего вернуть обратно свои акции и продать их по новой цене другому покупателю. Остается 4% акций, которыми в настоящий момент общество может распоряжаться с целью передачи государству или инвестору.

Кроме того, акционерное общество для этих целей не вправе приобретать акции собственного выпуска, если сумма номинальных стоимостей акций, находящихся в его распоряжении, составит более 10% от уставного фонда этого общества. Таким образом, если концерн «Беллегпром» или любой другой субъект хозяйствования Республики Беларусь намеревается приобрести блокирующий пакет 25% (плюс одна акция МО ОАО «Луч»), ему в любом случае придется, кроме акций, приобретенных «Лучом» у своих акционеров для передачи этому субъекту, приобрести не менее 16,44% акций у миноритарных акционеров общества. Однако для этого придется отменить решение Департамента по ценным бумагам Министерства финансов Республики Беларусь о блокировании акций МО ОАО «Луч», принятое этим органом государственного управления, регулирующим обращение ценных бумаг в стране, на основании письма Комитета государственного контроля Республики Беларусь от 29 ноября 2011 года.

На протяжении длительного периода времени акционеры требуют у наблюдательного совета общества произвести переоценку недвижимости, находящейся на балансе МО ОАО «Луч». Холдинг владеет в центре Минска более чем 80.000 квадратных метров недвижимого имущества. Мы исходим из того, что если стоимость зданий находящихся на Немиге будет рассчитана в среднем из расчета 1000 долларов США за один метр квадратный, а на улице Тимирязева – из расчета 750 долларов США за один квадратный метров, то общая стоимость основных средств акционерного общества составит около 70 млн долларов США, а сумма чистых активов составит более 600 миллиарда рублей Республики Беларусь. Таким образом, обеспеченность одной акции имуществом составит 860.000 рублей, при том, что номинальная стоимость одной акции МО ОАО «Луч» по состоянию на 16 июля 2012 года равна 129.000 рублей. Совершенно очевидно, что реальная стоимость акций акционерного общества отражает не только стоимость находящихся в собственности общества активов. Инвестор, приобретая акции такого старого предприятия, уменьшит их стоимость как минимум на сумму средств, необходимых ему для проведения реорганизации и модернизации объекта, с целью его эффективного использования. Тем не менее разница остается настолько существенной, что в этот процесс, вероятно, оказались вовлечены как внутренние силы в лице аффилированных лиц общества, равно как и фигуранты, ранее к «Лучу» не имевшие никакого отношения.

Руководство холдинга давно носится с идеей использовать многократное превышение реальной стоимости акций над его номинальной стоимостью посредством скупки у миноритарных акционеров их ценных бумаг на баланс общества по существующей номинальной стоимости и передаче их инвестору по реальной стоимости. Таким образом, они намеревались изыскать 40



млн долларов, необходимых для строительства промышленного комплекса в зоне промузла «Западный», и обеспечения выполнения грандиозных планов холдинга по увеличению выпуска обуви: до 3 млн пар в 2015-м и до 6 млн пар в 2018 году. Тот факт, что такая скупка акций фактически является ограблением более шести тысяч уже не работающих в структурах общества акционеров, наблюдательный совет общества скорее всего в расчет не принимал. Цель оправдывает средства. Однако когда оказалось, что такая «занимательная математика» посетила не только их головы, но заинтересовала структуры, обладающие серьезными ресурсами разного рода, руководство предприятия не нашло иного решения проблемы, кроме как инициировать эту информационную кампанию.

Что действительно выглядит разумным во всей этой шумихе вокруг МО ОАО «Луч», это возможное сотрудничество холдинга с «Белвестом», компанией, располагающей в России огромной сетью собственных магазинов, то чего вообще нет на «Луче». В свою очередь можно предположить, что и «Белвесту» такое сотрудничество выгодно, прежде всего, в части получения доступа к производственным площадям, имеющимся в избытке на «Луче». При возможных объединительных процессах у таких партнеров не должно возникнуть существенных разногласий, в том числе при определении паритетной стоимости своих ценных бумаг и долей. Однако и тут непреодолимым препятствием для таких контактов является злополучное решение Департамента по ценным бумагам о блокирование акций МО ОАО «Луч» – управляющая компания холдинга «Обувь – «Луч».

По словам собеседника, нельзя не признать справедливость высказываний о том, что мораторий на движение акций «Луча» затормозил переговоры с потенциальными инвесторами и ставит под сомнение реализацию стратегических планов по дальнейшему развитию холдинга «Обувь-Луч». Однако более существенными являются негативные последствия этого решения, связанные с тем, что в течение 7,5 месяца 6300 акционеров, в основном пенсионеры, лишены возможности реализовать свое конституционное право на использование имущества, принадлежащего им на праве собственности в своих интересах и по своему усмотрению. И конца этому, к сожалению, не видно.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

СУСЕДЗІ

# У Беларусь не пусцілі дапамогу для беларускіх палякаў

Актывісты Асацыяцыі дапамогі палякам з Усходу не змогуць прыехаць з падарункамі ў Беларусь. Мясцовыя улады адмовілі ім ва ўездзе.

Дапамога прызначалася для польскай школы і Дома дапамогі Карытас у вёсцы Сапоцкіна на Гродзеншчыне, паведамляе gp24.pl.

Пазней польская арганізацыя паспрабавала адвезці падарункі палякам Віцебска, аднак і гэтага з-за мытных фармальнасцяў зрабіць не атрымалася. Падарункі маглі быць канфіскаваны на мяжы, таму асацыяцыя вырашыла не рызыкаваць.

У выніку дапамога, якая прызначалася палякам Беларусі, будзе адпраўлена літоўскім палякам.

ДОСЛОВНО

# Александр Лукашенко обвинил частные банки в экономическом шпионаже

В текущем году А.Лукашенко уже не раз критиковал частные банки с иностранным капиталом, давая поручения Нацбанку РБ навести порядок с политической и экономической лояльностью банкиров. Однако сегодня Беларусь резко приблизилась к тому дню, когда в стране может начаться национализация банковского сектора, а отдельные иностранные инвесторы в финансовую сферу будут выдворены из страны для народа под всеобщее улюлюканье пропагандистов, – Лукашенко обвинил банки с иностранным капиталом в экономическом шпионаже.

«...мне поступала информация, что некоторые иностранные банки себя ведут просто как иностранные агенты в полном смысле этого слова. И уже предприниматели обижались на то, что финансовая документация очень многих компаний копируется и отправляется некоторым заказчикам. Я проверял. Это действительно подтверждается», – заявил в понедельник Александр Лукашенко во время встречи с главой Национального банка Надеждой Ермаковой.

«Поэтому в свое время я вас просил обратить на это внимание. Какие меры необходимо принять, может быть, нужно и мое вмешательство в этом плане?», – напомнил он о своих поручениях, повторив, что иностранные банки должны работать на белорусскую экономику, а не просто участвовать в интересных для себя проектах.

Судя по ответу Ермаковой, в шпионаже замечены банки с российским капиталом.

«Банки, которые пришли с иностранным капиталом, в основном российским, на нашем рынке работают, кредитуют экономику», – только и сказала в ответ главный банкир страны.

УРАДЖАЙ

# У Беларусі пачалася масавая ўборка збожжа

На ўчарашні дзень зерне ўжо было сабрана з плошчы, якая складае 8,6 працэнта ад усёй.

Найбольш збожжа нарыхтавалі ў Брэсцкай вобласці – 25%. Сярэдняя ўраджайнасць складае 37,5 цэнтнера з гектара.



ПО СЛЕДАМ АВАРИИ

## Для 12 белорусов путешествие по Украине закончилось в больнице

Как вчера сообщил БелаПАН пресс-секретарь МЧС Беларуси Виталий Новицкий, 12 белорусов, пострадавших в ДТП в Херсонской области Украины, продолжают оставаться в больницах на территории этой страны.

По словам Новицкого, вечером 22 июля автобус с 33 пассажирами, попавшими в ДТП, направился из Каланчака в сторону белорусской границы в пункт пропуска "Новая Гута". Утром 23 июля автобус прибыл на границу, где двоих пострадавших забрали родственники. Среди пострадавших в ДТП жители Минска, Бобруйска, Лиды, Барановичей, Орши, Сенно и других населенных пунктов, отметил Новицкий.

Напомним, авария произошла около полуночи 21 июля на 105-м километре автодороги Херсон–Джанкой–Феодосия–Керчь около поселка Каланчак. Водитель грузового "Форд Транзита" с прицепом при осуществлении обгона выехал на полосу встречного движения, где столкнулся с туристическим автобусом "Сетра". В результате автобус выбросило на встречную полосу, в него врезался еще один "Форд Транзит", и после этого "Сетра" перевернулась на левый бок.

В результате ДТП пострадали водители обоих "Фордов" и пассажирка одного из них, а также 28 пассажиров автобуса, среди которых 25 граждан Беларуси и трое граждан России. Среди пострадавших туристов – шестеро детей. Всего в "Сетре" находились 46 пассажиров и два водителя.

Автобус ехал по маршруту Евпатория–Минск.

По факту ДТП возбуждено уголовное дело, проводится расследование.

АФІЦЫЙНА

# Зацверджаны новыя мінімумы

У Беларусі зацверджаны новыя памеры сярэднедушавых мінімальных спажывецкіх бюджэтаў.

Сярэднедушавы мінімальны спажывецкі бюджэт сям'і з чатырох чалавек з 1 жніўня па 31 кастрычніка гэтага года складзе 1 мільён 332 тысячы 100 рублёў у разліку на месяц. Гэта на 13,7% перавышае нарматыў, які дзейнічае з 1 мая па 31 ліпеня 2012 года (1 мільён 171 тысяча).

Паводле слоў спецыялістаў, асноўныя крыніцы расходаў сярэднедушавога МСБ сям'і з чатырох чалавек у цэнах чэрвеня 2012 года наступныя: прадукты харчавання – 57,2%, адзенне, бялізна, абутак – 21,4%, карыстанне жылым памяшканнем і камунальныя паслугі – 4,4%, бытавыя паслугі, транспарт, сувязь – 4,7%, прадметы культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння – 7,8%, культурна-асветныя мерапрыемствы і адпачынак – 1,3%, узносы і плацяжы – 0,9%, прадметы санітарыі, гігіены, лякарствы – 2,3%.

Зацверджаны таксама сярэднедушавыя мінімальныя спажывецкія бюджэты:

– маладой сям'і з трох чалавек – 1.397.350 рублёў,
– працаздольнага насельніцтва – 1.670.390,
– пенсіянераў – 1.296.600,
– студэнтаў – 1.305.430,
– дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў – 1.037.430,
– дзяцей ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў – 1.249.100,
– дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў – 1.503.710.

Журналісты неаднойчы прапаноўвалі чыноўнікам эксперымент – паспрабаваць пражыць на гэтыя сумы. Але ніхто не пагадзіўся.



ПРОВЕРЕНО НА СЕБЕ

*Иван ЛОБАЧЕВ, подполковник милиции в отставке:*

# "Разве они за народ?"

*Выборы -- этот тот редкий период в жизни государства, когда главным в стране должен становиться народ. Группа граждан, живущих в самом центре Минска, в районе магазина "Антиквар", решила проявить сознательность и выдвинула своего представителя в состав Коласовской окружной избирательной комиссии. В любой стране мира подобную инициативу людей только приветствовали бы. Там выборы проходят по принципу: любой желающий может убедиться, что все проходит честно. О том, как встретили инициативу низов у нас, "Народной Воле" рассказал Иван Лобачев.*

– Все-таки я к выборам отношусь серьезно. Я подполковник милиции в отставке, в 90-х годах был председателем избирательной комиссии на Юго-Западе, имею опыт. Собрали мы по дому подписи за мое выдвижение в состав окружной комиссии и назавтра же я их сдал. Причем сдал одним из первых. Жду. Никто не звонит, не интересуется, никуда не приглашает. Наконец уже в газетах прочитал, что комиссии сформированы. Тогда я сам им позвонил и попросил, чтобы зачитали список тех, кто включен в состав комиссии по нашему округу. Моей фамилии, естественно, не оказалось.

Тогда назавтра я собираюсь и иду в горисполком. Сидит там такая кобета большого размера и удивляется: "Ну и что, что вы подписи собрали... А почему мы вас должны включать? Вероятно, вы нам не подошли". "Почему не подошел?" "Ну, не знаю... Может, опыта нет..."

А я прямо на первом листе написал, что имею высшее юридическое образование, высшее экономическое образование, был председателем избирательной комиссии. Как это, опыта нет? Может, мои документы потерялись? Она покопалась в папках – документы есть.



Тогда я начал требовать, чтобы мне дали обоснование: почему не включили? Пригрозил, что буду в суд подавать. А ей хоть бы хны: "Подавайте. Мы и в суд придем".

Ну что тут будешь делать? Я только стукнул кулаком по столу и ушел.

**– В вашем доме, в этом квартальчике, где вы живете, интерес к выборам есть?**

– Конечно есть. Наш дом раньше назывался "Дом ученого", хотя сейчас многие жильцы поменялись, но живут люди грамотные, интеллигентные. В том числе, кстати, офицеры милиции. Заходишь в квартиру, разговариваешь – все всё понимают. Часто обсуждаем: "Как же так, оппозиции ребра бьют, а мы, сами недовольные, смотрим с балкона?" Люди согласны, что ситуацию надо менять, что надо что-то делать, что не может так страна развиваться. Вроде на выборах такие, как мы, и должны свое слово сказать. Только как сказать, если слушать никто не хочет?

**– То есть ваши соседи пойдут голосовать? У них есть надежда, что выборы будут?**

– А вот тут я и не могу ответить. Не знаю. Видимо, люди надеялись, раз меня в комиссию выдвигали. А теперь...

Но бойкота тоже, наверное, не получится. Старики по привычке пойдут голосовать. Все-таки они не могут поверить, что голоса не считают. А кто не пойдет – тому домой урну для голосования припрут и не выгонишь. Тем более что у нас народ очень возбужден, просто бурлит, а что делать – не знаем.

Представьте, наш двор решила застроить Академия МВД. Им уже мало места в старом здании, не вмещаются! Запланировали впихнуть аж четыре (!) новых корпуса – учебный, столовую, бассейн и гостиницу. Это такое уплотнение, что кошке негде будет пристроиться, не то что человеку на лавочке посидеть.

Конечно, люди возмущены. Конечно, люди против. Но нам дают ответы, как под копирку. Только Министерство здравоохранения и Комитет по архитектуре прислали хотя бы что-то похожее на ответ: мол, еще не имеем документов и не знаем, как реагировать. А все остальные почти откровенно пишут: "Будем делать, что считаем нужным, и не выступайте тут". Вот, например, я понес наше письмо министру МВД. Сидит полковник. Глянул брезгливо на листы и говорит: "Нам надо – мы построим".

Все! Разговор короткий!

Мы пробовали попасть на прием к председателю Мингорисполкома Николаю Ладутько – не пробились. У него, оказывается, запись чуть ли не на год вперед. Получается, надо или идти на улицу бунтовать, или выбирать депутата, который будет заниматься нашей проблемой. Вот поэтому соседи и попытались меня в окружную комиссию пропихнуть.

**– Но ваш нынешний депутат Галина Полянская – архитектор. Кто, как не она, мог компетентно заняться этой проблемой? Тем более что вы именно ее избиратели.**

– Не говорите вы мне про нынешних депутатов и конкретно про Полянскую. Мы несколько раз пробовали к ней попасть. Это невозможно. То она занята, то ее нет, то у нее другие дела. Хотя, конечно, во всех нормальных странах, когда возникают проблемы между людьми и государством, то посредником в их решении должен выступать депутат. Но у нас такие депутаты, так их выбирают, что им люди не интересны. Им главное – с властью отношения не испортить. Одно название – депутаты. Разве они за народ?! Разве они из народа? Почему тогда они таких законов напринимали?..

Когда у нас вся эта проблема со стройкой возникла, мы, жильцы, решили собраться. Но где собраться? В квартиру же сто человек не поместишь. Назначили встречу во дворе. Тут же прибежали тихушники, снимали нас на видео, фотографировали – несанкционированное собрание, заговор, преступление...

Ничего не дают! Даже собраться и поговорить уже нельзя. Три человека – уже митинг.

Какие они депутаты – такие у них и законы. И еще не стесняются опять баллотироваться, опять обещать, опять призывать: "Голосуйте за меня!.."

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

ВЫБАРЫ-2012

# На адзін мандат – чатыры прэтэндэнты

Закончылася падача дакументаў для рэгістрацыі ініцыятыўных груп па зборы подпісаў для вылучэння кандыдатаў у дэпутаты. Усяго на 110 акруг было пададзена 439 заяў, паведаміў сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік.

Найбольшая колькасць заяў на рэгістрацыю ініцыятыўных груп пададзена ў Мінску: на 20 выбарчых акруг – 142 заявы (у сярэднім 7,1 заявы на акругу).

У Магілёўскай вобласці на 13 акруг пададзены 64 заявы на рэгістрацыю ініцыятыўных груп (4,9), у Віцебскай вобласці на 14 акруг – 52 заявы (3,7), у Брэсцкай вобласці на 16 акруг – 48 заяў (3), у Гродзенскай вобласці на 13 акруг – 38 заяў (2,9), у Мінскай вобласці на 17 акруг – 48 заяў (2,8), у Гомельскай вобласці на 17 акруг – 47 заяў (2,8).

«Калі параўноўваць з папярэднімі выбарамі 2008 года, то конкурс сярод ініцыятыўных груп застаўся практычна той жа», – паведаміў Лазавік.

Але гэтым спіс не закрыты. Яшчэ не рэгістраваліся тыя жадаючыя трапіць у дэпутаты, якія будуць вылучацца па партыйных спісах. Такім чынам, вылучэнне кандыдатаў будзе працягвацца да 13 жніўня.

Нагадаем, выбары ў Палату прадстаўнікоў пройдуць 23 верасня. Частка палітыкаў заклікае выбары байкатаваць.

# Кто – на выборы, кто – за бойкот!

Оргкомитет кампании бойкота парламентских выборов призывает всех неравнодушных граждан Беларуси стать очевидцами народного бойкота и войти в состав участковых избирательных комиссий.

С таким заявлением выступили Виктор Ивашкевич, Александр Козулин, Александр Отрощенков, Виталий Рымашевский, Дмитрий Усс и Геннадий Федынич.

"Ни одни выборы в Беларуси за последние 15 лет не проводились без грубого нарушения норм международного права. Начиная с момента формирования комиссий до момента "подсчета" голосов и фиксации явки избирателей, власть нарушает право белорусов на честные и справедливые выборы. Но то, что очевидно для нас с Вами, необходимо сделать очевидным для большинства белорусов", – отмечается в документе.

По словам участников оргкомитета, кампания бойкота начинает выдвижение в состав участковых избирательных комиссий представителей – очевидцев происходящего.

В этой связи оргкомитет призвал граждан до 5 августа 2012 года выдвигаться в состав участковых комиссий путем подачи заявления от имени граждан Беларуси и общественных организаций.

"Выделяя представителей в состав участковых комиссий, мы ставим власть перед двумя плохими выборами: пропустить независимого представителя в состав участковой комиссии и получить независимого наблюдателя с правом голоса, который будет фиксировать реальную явку избирателей, нарушения закона, или отказать – и тем самым подтвердить, что свободных и прозрачных выборов в стране нет. Массовый отказ независимым представителям – сам по себе уже есть подтверждение отсутствия свободных выборов в стране", – считают в оргкомитете кампании бойкота.

### ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

Некоторые белорусы пробуют стать кандидатами в депутаты только для того, чтобы агитировать избирателей за бойкот этих выборов. Так, документы на регистрацию инициативной группы подала мать политзаключенного Игоря Олиневича – Валентина Олиневич.

«Я вижу свой гражданский и материнской долг в том, чтобы говорить людям правду о том, в какой стране мы живем. Что такое белорусская судебная и пенитенциарная системы. Я уверена, что пока в стране нет честных и свободных выборов, в Беларуси всегда будут политзаключенные. Необходимо бороться за честные выборы. И первый шаг этой борьбы – бойкот того фарса, того спектакля, который сейчас ставит власть. Я иду к людям агитировать за бойкот – и это мое право», – говорит она.

Документы на регистрацию инициативной группы Валентины Олиневич поданы в администрацию Фрунзенского района Минска.

# Рэкардсмен

Віктар Гумінскі так упадабаў дэпутацкі хлеб, што ўжо чацвёрты раз балатуецца ў склад Палаты прадстаўнікоў. Праўда, на гэты раз ён змяніў акругу.

У Барысаве на прыборабудаўнічым заводзе адбыўся сход калектыву, на якім аднагалосна было прынята рашэнне аб вылучэнні Віктара Гумінскага кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Прадстаўнікі адміністрацыі завода Гумінскага вельмі хвалілі. Чаму ён гэтым разам пабаяўся ісці да былых выбаршчыкаў з Барысаўскай гарадской акругі і перакінуўся на суседнюю, ніхто не запытаўся. Хаця калі паглядзець на спісы зарэгістраваных ініцыятыўных груп, то ўсё становіцца зразумелым: кандыдатам улады па былой акрузе дэпутата Гумінскага вызначана кіраўніца спраў райвыканкама Тамара Красоўская.

Віктар Гумінскі – адзін з самых адыёзных дэпутатаў.



Былы ваенны палітрук, ён вельмі ўпадабаў працу не ў казармах і на палігонах, а ў Авальнай зале. Абіраўся дэпутатам Палаты прадстаўнікоў другога, трэцяга, чацвёртага скліканняў. Як толькі пачала ствараццца праўладная арганізацыя "Белая Русь" – уступіў у яе. Усе апошнія гады з армейскай аргументацыяй "ваюе" з Захадам, чым, напэўна, і замацаваў сваё месца ў розных прэзідыумах.

Дарэчы, пакуль у Гумінскага проста цяплічныя ўмовы для выбараў – ён адзіны прэтэндэнт па сваёй акрузе. Хаця чакаецца, што да спіса ўсё ж дададуцца партыйныя вылучэнцы.

# Рабочы ідзе на выбары "ўскалыхнуць багну"

Рэдка прэтэндэнты на дэпутацкі мандат добра гавораць адзін пра аднаго, але такі выпадак адбыўся ў Гомелі.

Каардынатар грамадзянскай кампаніі «Справаводства па-беларуску!» Ігар СЛУЧАК, які падаў дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за вылучэнне яго кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па Гомельскай Савецкай выбарчай акрузе №34, падчас пасяджэння камісіі пазнаёміўся са сваімі патэнцыяльнымі супернікамі. Пра некаторых з іх да гэтага дня ён не ведаў зусім нічога.

– На пасяджэнні па рэгістрацыі ініцыятыўных груп мы пазнаёміліся з Яраславам Гараненковым асабіста і перакінуліся парай слоў. Ён рабочы аднаго з заводаў Гомеля, майго ўзросту, моцны хлопец, які распавёў, што яго вылучэнне было шокам для кіраўніцтва завода. Ён ужо меў з імі гутарку, але ўсё роўна пойдзе на выбары, бо, па яго словах, трэба ўскалыхнуць багну, і што прыйшоў ужо час маладых. Ну, проста чалавек з апошняга альбома "Ляпісаў", іншых асацыяцый у мяне не ўзнікае, – пракаментаваў знаёмства з супернікам Ігар Случак.

Дарэчы, сам Случак таксама незвычайны прэтэндэнт. Яго называюць "народным кандыдатам" ад "Фэйсбука".

«І акругу, па якой я вылучаюся, выбралі карыстальнікі сацыяльнай сеткі праз апытанне. 60% членаў маёй ініцыятыўнай групы прыйшлі да мяне праз сацыяльныя сеткі, я даў аб'яву-запрашэнне паўдзельнічаць у кампаніі, і людзі адгукнуліся. Было каля 30 ахвотных, я ўключыў у ініцыятыўную групу 14 чалавек – самых надзейных і цікавых, сярод якіх рэкламшчыкі, журналісты, настаўнікі і музыканты», – расказаў Случак.

Мэту свайго ўдзелу ў выбарах Ігар Случак называе адну: «Я іду на выбары, каб можна было легальна пагаварыць аб праблеме беларускай мовы, паказаць магчымасць хоць нейкай трэцяй сілы, таму што людзям надакучылі і праўладныя, і апазіцыйныя кандыдаты з іх незразумелымі і нецікавымі кампаніямі».

**Ігар МАРОЗАЎ.**

# Статкевіча вылучалі "зэкі"?

Былы кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікола Статкевіч з турмы паспрабаваў балатавацца ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Зарэгістраваць ініцыятыўныя группы па вылучэнні Статкевіча кандыдатам яго паплечнікі спрабавалі па ўсіх акругах Віцебшчыны і ў іншых рэгіёнах краіны.

Ініцыятыўныя групы не зарэгістраваны. У якасці прычыны адмовы называлася тое, што на дадзены момант Статкевіч адбывае ў турме пакаранне за арганізацыю масавых беспарадкаў і яго вылучэнне ў дэпутаты супярэчыць як Канстытуцыі, так і Выбарчаму кодэксу Рэспублікі Беларусь.

У акруговай выбарчай камісіі №87 у Магілёве дзяжурныя сябры камісіі ўвогуле адмовіліся прымаць дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўнай групы палітзняволенага – іх проста выкінулі ў сметніцу. Праваабаронцы, дарэчы, сцвярджаюць, што гэта незаконна: дакументы мусілі прыняць, зарэгістраваць і ўжо далей разглядаць на пасяджэнні.

Што, дарэчы, у шэрагу акруг і было зроблена.

З'яўленне пакета дакументаў на вылучэнне Статкевіча стала поўнай нечаканасцю для камісіі Першамайскай акругі ў Бабруйску.

– На пасяджэнні нам сказалі, што ў Міколы Статкевіча група складалася з 114 чалавек, – расказаў назіральнік Віктар Качан. – Але ўсе яны зараз знаходзяцца ў калоніі. Гэта і стала падставай адмовіць у рэгістрацыі, бо гэтыя людзі не змогуць весці актыўную выбарчую кампанію.

На самай справе Статкевіча ў дэпутаты вылучалі не "зэкі". Як распавёў Аляксей Гаўруцікаў, аднапартыец Статкевіча, "мэта – прыцягнуць увагу да наяўнасці палітвязняў у краіне, да таго, што за кратамі сядзяць тыя, каго падтрымлівае народ, і хто цалкам заслугоўвае таго, каб быць абраным у парламент".

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

# Накрыць Гродна!

Кіраўнік Гродзенскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Вадзім САРАНЧУКОЎ падаў дакументы на рэгістрацыю ініцыятыўных груп адразу ў чатырох выбарчых акругах, каб мець магчымасць ставіць пікеты па ўсім горадзе.

Увогуле па краіне прадстаўнікі БНФ падалі дакументы на рэгістрацыю сваіх ініцыятыўных груп у 15 акругах. У Мінску партыю будзе прадстаўляць яе кіраўнік Аляксей Янукевіч, які падаў дакументы ў Аўтазаводскую акругу № 92. Але да канца пойдуць партыйцы ў выбарах ці яны здымуць свае кандыдатуры, пакуль не зразумела. Чэрвеньскі Сойм Партыі БНФ рэкамендаваў сваім сябрам рэгістраваць ініцыятыўныя групы, ставіць пікеты, збіраць подпісы, але не здаваць іх у выбарчыя камісіі. Тым не менш канчатковую стратэгію кожны з кандыдатаў выбірае сам.

САЛІДАРНАСЦЬ

## 4 жніўня – Дзень Беларусі

Грамадзянскія актывісты, праваабаронцы і проста неабыякавыя людзі з Расіі і іншых краін выступілі з ініцыятывай аб правядзенні міжнароднага Дня салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю і праваабарончым рухам Беларусі і прызначыць гэты дзень на 4 жніўня.

Менавіта ў гэты дзень у 2011 годзе пад арыштам апынуўся Алесь Бяляцкі, адзін з вядучых беларускіх праваабаронцаў і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай Федэрацыі правоў чалавека.

ТОЧКИ НАД "І"

## Вину за «список невыездных» возложили на компьютер

В суде Центрального района Минска в понедельник завершилось рассмотрение иска Анатолия Лебедько к министерствам юстиции и внутренних дел относительно его незаконного включения в список лиц, которым запрещен выезд из страны.

Несмотря на то, что в иске было отказано, лидер ОГП оценивает итоги судебного заседания позитивно. Представитель МВД признал, что Лебедько был включен в список «невыездных» ошибочно и, по состоянию на сегодня, его фамилия в этом списке уже не значится. Виновным в том, что Лебедько и еще около 50 человек несколько месяцев не имели права выезжать за пределы Беларуси, назначили... компьютер.

Из списка невыездных также исключены Валерий Ухналев, Виктор Корнеенко, Гарри Погоняйло, Андрей Бондаренко и Валентин Стефанович. Всем им объяснили запрет на выезд техническим сбоем.

НЕСПАКОЙНА

## На "Гродна-Азоце" пратэставалі больш за 200 рабочых

Яны адмовіліся падпісваць афіцыйнае папярэджанне адміністрацыі прадпрыемства аб змяненні ва ўмовах працы.

Таксама рабочыя звярнуліся ў Беларускі незалежны прафсаюз з просьбай разабрацца ў сітуацыі. Людзі незадаволены "дзіўным чынам праведзенай атэстацыяй" і тым, што адміністрацыя прадпрыемства аказвае на іх ціск з патрабаваннем прызнаць вынікі гэтай атэстацыі.

Справай зацікавілася пракуратура і кіраўніцтва афіцыйнай Федэрацыі прафсаюзаў. А першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка пакуль прыпыніў дзеянне новай атэстацыі, паведамляе БелаПАН.

СІТУАЦЫЯ

# Хто з "Дажынак" збірае ўраджай?

Камітэт дзяржаўнага кантролю абнародаваў "ураджай" мінулагодніх "Дажынак", якія праходзілі ў Маладзечне. Да адказнасці прыцягнута 131 службовая асоба, акрамя таго, узбуджаны дзве крымінальныя справы за злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі і за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць, звязаную з атрыманнем даходу ў асабліва буйным памеры.



### Затое пагулялі!

Маладзечанскія "Дажынкі", па інфармацыі Дзяржкантролю, абышліся амаль у 823 мільярды рублёў. Прычым агульнага каштарысу расходаў на падрыхтоўку і правядзенне «Дажынак» КДК увогуле не знайшоў. Таму што яго проста не існавала. Былі толькі асобныя разрозненыя дакументы, якія вызначаюць аб'ём работ, без указання крыніц фінансавання. У выніку з-за недахопу і несвоечасовасці фінансавання асобныя аб'екты і праз паўгода пасля «Дажынак» не былі да канца адрамантаваныя. Цікава, што ўжо пасля свята працягваўся рамонт нават у будынку мясцовага райвыканкама. А некаторыя работы, якія планавалася правесці да свята вёскі, увогуле не пачыналіся. Затое больш за 2 мільярды рублёў былі выкінуты на выраб праектнай дакументацыі, якая так і не спатрэбілася.

Кантралёры прыводзяць сапраўды абуральныя прыклады безгаспадарчасці.

28 жылых дамоў у Маладзечне некалькі месяцаў стаялі без дахаў пад праліўнымі даждажамі. У выніку затапіла 141 кватэру! Прычым рабіць рамонт у гэтых кватэрах пасля "Дажынак" ніхто не спяшаецца. На момант рэвізіі КДК людзі, якія пацярпелі ад такой "гаспадарлівасці", усё яшчэ стаялі ў чарзе і на рамонт, і на выплату кампенсацый.

Яшчэ прыклад. У рамках будаўніцтва лабараторнага корпуса дзіцячай бальніцы ў Маладзечне было закуплена нятаннае медыцынскае абсталяванне. Дык вось, больш за чвэрць абсталявання (на суму 350 мільёнаў рублёў) на 1 мая ўжо гэтага года так і захоўвалася на складзе ў заводскіх упакоўках!

Пры гэтым, як засведчыў КДК, за добрую працу па падрыхтоўцы "Дажынак" выпісваць прэміі ніхто не забываўся. Пры гэтым старшыня райвыканкама Фёдар Дамаценка, як працаваў, так і працуе. Добра ж на свяце пагулялі!

### Горацкае гора

У "Дажынкі-2012", якія ў гэтым годзе пройдуць у Горках, ужо "ўбухалі" 640 мільярдаў рублёў. Пра гэта паведаміў намеснік кіраўніка Горацкага райвыканкама Уладзімір Пятровіч. Усяго на падрыхтоўку і правядзенне "Дажынак-2012" у Горацкім раёне плануецца выдаткаваць 933 мільярды рублёў – больш за 100 мільёнаў долараў.

Пагалоска пайшла, што падчас апошняга наведвання Магілёўскай вобласці Аляксандр Лукашэнка пагражаў "усіх пазвальняць" – так быў не задаволены падрыхтоўкай да "Дажынак". Але нічога: грымнуў гром – і зноў усё ідзе сваім шляхам. Праўда, цяпер у падрыхтоўцы да свята ўраджаю задзейнічана аж 6,5 тысячы чалавек.

Хаця ў Горках кантралёрам будзе не так проста "знайсці канцы" па грашовых схемах. Там ужо двойчы здараліся... пажары. Прычым двойчы – на самым галоўным аб'екце у амфітэатры.

### Хто ў чарзе?

"Дажынкі" – гэта грошы. Ды такія, якіх іншым манерам мясцовыя ўлады ніколі не пабачаць. Таму рэгіёны нават сварацца за права правесці свята ўраджаю.

Так, у Рагачове нават спрабавалі стварыць ініцыятыўную групу пад патрабаванне вярнуць гораду "Дажынкі-2013". Спачатку і было аб'яўлена, што ў наступным годзе фестываль пройдзе ў Рагачове, але потым яго раптам перанеслі ў Гомель.

Дарэчы, па неафіцыйнай версіі, хаця "Дажынкі" задумваліся як свята малых гарадоў, надалей яно з іх паспрабуе "з'ехаць". Бо занадта дорага, аказваецца, "падымаць руіны". У буйных гарадах на падрыхтоўку расходы будуць меншымі: там і інфраструктура ўжо створана, ды і лядовыя палацы ўжо пабудаваны. Гэта ж кара нам нейкая – амаль да кожных "Дажынак" будаваць дарагі і нікому не патрэбны каток. Вось і сёлета ў Горках яго адчыняць, але што потым рабіць з гэтым палацам, мала хто ведае.

Ускосна тэндэнцыю на тое, што "Дажынкі" будуць перамяшчацца на больш падрыхтаваныя пляцоўкі, на сёлетнім суботніку пацвердзіў старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец. "Віцебск мы прывядзём вельмі сур'ёзна ў належны выгляд у 2012–2014 гады. Я буду прасіць прэзідэнта – адкрыю вам таямніцу – правесці тут "Дажынкі" ў 2014 годзе. Але для гэтага нам трэба паказаць Віцебскі раён», – паведаміў Косінец.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

